Наша Свабода

№19(106) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

16 ЛЮТАГА 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

стар.6




Беларускі лён

# Працу і дастойную зарплату




Фота Ул. ШЛАПАКА

Рыгор БУЯН

**Да 3 тысячаў чалавек сабрала Федэрацыя прафсаюзаў Беларускай 14 лютага на плошчы Бангалор на мітынг «Заробкі – на ўзровень цэнаў!». Удзельнікі акцыі трымалі плакаты «Абаронім права на працу і дастойную зарплату», «У адзінстве наша сіла», «Забяспечыць нармальныя ўмовы жыцця», «Прафсаюзы за эканамічныя рэформы, але – не за кошт людзей», «SOS: з адукацыі сыходзяць кадры».**

Працоўныя патрабавалі ад уладаў падняць узровень заробкаў да ўзроўню цэнаў, спыніць інфляцыю, тарыфную стаўку першага разраду зрабіць не ніжэй за мінімальны спажывецкі бюджэт, які на цяперашні дзень складае 42 тысячы рублёў. Яшчэ адно патрабаванне мітынгу, аднагалосна падтрыманае ягонымі ўдзельнікамі, – спыніць ціск і пераслед прафсаюзаў.

Старшыня ФПБ Уладзімір Ганчарык, які збіраецца балатавацца ў прэзідэнты, заявіў, што «патрабаванні пакуль эканамічныя». «І ў гэтым плане патрабаванні па росце зарплаты, тарыфнай стаўкі першага разраду – гэта якраз тыя праблемы, якія сёння цікавяць усіх – ад рабочага да настаўніка і медыка».

Аднак эканамічны мітынг не мог не закрануць палітычны аспект, бо ў цяперашняй сітуацыі эканоміка і палітыка цесна пераплецены. Тым больш што дэманстранты схільныя былі ў многіх сваіх бедах вінаваціць цяперашні рэжым, у тым ліку асабіста А.Лукашэнку. Гэтая думка чырвонай ніткай праходзіла праз усе выступы. На думку У.Ганчарыка, «вадавочная неабходнасць мяняць сацыяльна-эканамічную палітыку – без гэтага не абысціся, бо гэта закранае працу дзяржаўных органаў, працу прэзідэнта».

Анатоль Паўлаў, старшыня Мінскага гаркама прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі, па ініцыятыве якога летась 180 тысячаў настаўнікаў з усёй краіны падпісаліся пад патрабаваннямі да ўрада давесці зарплату ў галіне да сярэднепрамысловага ўзроўню, гаварыў пра жабрацтва настаўнікаў. Настаўнікам на іх патрабаванні Саўмін адказаў адпіскай. «Ад нас з вамі патрабуюць законапаслухмянасці. А хто адкажа за тое, што Закон аб адукацыі не выконваецца 10 гадоў? Прынятая ў 1998 годзе праграма «Настаўнік» так і не выкананая. А нас кормяць чарговымі абяцанкамі», – абураўся А.Паўлаў.

Рабочы вытворчага аб'яднання «Беларуськалій» з Салігорска палічыў сімвалічным, што мінская «вертыкаль» накіравала прафсаюзы на Бангалор, да «малпавала гадавальніка». На яго думку, гэта яскравае сведчанне адносінаў уладаў да «простага народа», як любіць гаварыць А.Лукашэнка, калі людзей ураўноўваюць у правах з прыматамі. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## Свята любові без міліцэйскай лагоды

Кірэй МАНУЙЛА

Маладзёжная акцыя «Любові! Свабоды! Пераменаў!» адбылася 14 лютага на Дзень святога Валянціна ў дзесятках гарадоў Беларусі. Збольшага ўсё прайшло мірна, хоць праваахоўныя сілы і на гэты раз не ўстрымаліся ад палявання на некаторых маладых апазіцыянераў.

Каля тысячы маладых людзей сабралася ў Мінску на плошчы Свабоды. Як ужо стала звычайным, гэтае месца адразу ж была акбружане міліцыяй, якая настойліва даводзіла ўдзельнікам акцыі пра тое, што мерапрыемства мусіць дазволена на вуліцы Арлоўскай каля шапіто. Тым не менш моладзь туды выпраўляцца не збіралася, а прыкладна ў 17.30, разгарнуўшы бел-чырвона-белы сцяг і сцяг Еўрасаюза і раскідаўшы ўгару мноства «валянцінак», з лозунгам «Жыве Беларусь!» рушыла па ходніках праспекта Скарыны да Круглай плошчы. Тут пасля заклікаў міліцыі і арганізатараў акцыі яе ўдзельнікі разышліся па дамах. ▶

*Заканчэнне на стар.3*

## Моладзь бяруць пад кантроль

Ваўкавыская вертыкаль спарадзіла пастанову, якою патрабуе ад падначаленых абмяжаваць кантакты з апазыцыяй. У дакуменце адзначана: «...лічым неабходным адміністрацыям навучальных установаў праводзіць працу па недапушчэнні стварэння філіяў апазыцыйных партыяў і грамадскіх арганізацыяў, народных універсітэтаў».

Улада канстатуе: у навучальных установах праводзяцца лекцыі і семінары, на якіх выступаюць вядомыя лідэры БНФ. У пастанове ўтрымліваецца і просьба паведамляць пра ўсе выпадкі «правядзення акцыяў і пранікнення ў моладзёвы асяродак» аддзелу грамадска-палітычнай інфармацыі райвыканкаму. ■

Радыё «Рацыя»

## «Маладзёжка» працягвае перамагаць

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Перамогай над равеснікамі з Партугаліі завершылася таварыская гульня маладзёжнай зборнай Беларусі ў партугальскім горадзе Барэйру. Лік гульні – 2:1, а галы ў беларусаў забілі Віталь Ледзянёў ды яшчэ адзін партугалец, выпадкова зрэзаўшы мяч ва ўласныя вароты.

Такім чынам фенаменальная пераможная серыя беларусаў працягваецца. Нагадаем, што летась у адборачных гульнях да маладзёжнага чэмпіяната Еўропы беларуская «маладзёжка» ліха тройчы расправілася з сапернікамі з Уэльса, Арменіі ды Польшчы і займае першае месца ў адборачнай групе.

А тым часам дысцыплінарны суд расійскай прафесіянальнай футбольнай лігі вынес рашэнне на карысць беларускага паўабаронцы Аляксандра Кульчага, які адмовіўся выступаць за свой клуб «Факел» з Варонежа пасля падпісання кантракта. Цяпер Кульчы накіраваўся ў свой раенны клуб «Шыннік» з Яраслаўля і рыхтуецца да сезону там. ■

# Беларусь остается на обочине дороги в Европу

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

Европейский Союз, впрочем, как и другие европейские структуры продолжают поддерживать отношения с официальным Минском на минимальном уровне. Не возтал исключением такого положения, возникшего после памятного референдума 1996 года, и недавний визит представителей Евросоюза. В группу посланцев Европы входили всего лишь начальники и заместители глав департаментов ЕС. Согласно установленному регламенту, в этом Союзе каждые полгода меняются председательствующие. До наступившего года им была Франция, теперь Швеция, а с 1 июля будет Португалия. Поэтому в указанной группе гостей были чиновники из этих стран. По официальной информации, их визит был связан с продолжающимся изучением ситуации в Беларуси. Как известно, процесс изучения идет в рамках четырех условий, при которых Беларусь может выйти из внешнеполитической изоляции. Среди этих условий – изменения в Избирательном кодексе и расширение функций парламента. Проведя в Минске серию консультаций, европейские чиновники отбыли в Брюссель. По некоторым данным, никаких открытий, способных вызвать оптимизм, они не сделали. Видимо, Беларуси и в этом году суждено будет прозябать на обочине дороги в Европу.

О нынешнем месте Беларуси, в делах европейских, могут свидетельствовать и некоторые другие события, происшедшие на этой неделе. Как известно, высшее руководство Европейского Союза посетило Россию, Украину и Молдову. «Тройка» ЕС, в которую входили министр иностранных дел Швеции господин Линд, Высокий представитель ЕС Солана, занятый вопросами внешней политики и политикой безопасности и внешнеполитический комиссар ЕС господин Паттен. Эти посланцы Европы, в частности, обсудили вопросы расширения ЕС на Восток, проблемы европейской политики безопасности, будущее Калининградской области, а также вопрос участия Молдовы в Соглашении стабильности на юге Европы.

Европейский Союз поддерживает и с Украиной, и с Россией отношения «стратегического партнерства». Наблюдатели отметили, что визит Путина на Украину произошел всего лишь за день до прибытия туда «тройки» ЕС. Тем самым Москва дала понять, что на Украине у нее есть свои стратегические интересы. ▶

*Окончание на стр.3*

## НАВІНЫ

■ **У чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў стаіць 580 тысячаў беларускіх сем'яў.** Аднак многім давядзецца чакаць яшчэ многія гады. Калі летась на бюджэтныя сродкі было пабудавана 1,2 мільёна квадратных метраў жылля, то ў 2001 годзе плануецца толькі 700 тысячаў.

■ **У Беларусі ўжо другі раз падаражэла гарэлка – цяпер на 3,5%.** Рост кошту на яе тлумачыцца нядаўнім павелічэннем памеру акцызаў на алкагольную прадукцыю. Пляшка «Крышталь-100», напрыклад, стала каштаваць зараз 1.600 рублёў, «Белая Русь-люкс» – 1.711 рублёў.

■ **У Бабруйску выяўленыя фальшывыя купюры наміналам 1 тысяча рублёў.** Зафіксавана некалькі выпадкаў, калі такімі грашыма людзі спрабавалі разлічыцца ў крамах. Фальшыўкі надрукаваныя на няякаснай паперы і без ахоўных валокнаў.

■ **Паводле дадзеных Камітэта па санацыі і банкруцтве, крызісны фінансавы стан маюць 58% дзяржаўных прадпрыемстваў.** Каля 800 суб'ектаў гаспадарання неплацежаздольныя, 300 – стратныя, 60 знаходзяцца пад пагрозай банкруцтва.

■ **Беларускі аўтамабільны завод у Жодзіне павялічыў за леташні год аб'ём продажу сваёй прадукцыі на 75%.** Усяго летась было рэалізавана амаль 1.200 вялікагрузных машынаў. У 2001 годзе БелАЗ плануе выпусціць 1.300 аўтамабіляў. У далёкае замежжа будуць прададзеныя 130 «волатаў».

■ **Навукова-прамысловая асацыяцыя і Канфедэрацыя прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў выступаюць за ўвядзенне адзінай стаўкі падаходнага падатку.** Яны даводзяць таксама, што няма патрэбы ў прагрэсіўнай шкале збірання падатку і вылічэння сукупнага гадавога даходу для падатказабкладання. А выдаткі на ўтрыманне дадатковых супрацоўнікаў падатковых інспекцыяў перавузыходзяць дадатковыя даходы ў бюджэт.

■ **Паводле звестак дзяржаўнага камітэта па міграцыі, на часовыя заробкі за мяжу летась выправілася амаль 5 тысячаў беларусаў.** Гэта на паўтары тысячы болей, чымсьці ў 1999 годзе. Звычайна на замежныя заробкі едзе моладзь – амаль 70% тых, хто ў 2000 годзе выязджаў працаваць за мяжу, мелі ўзрост да 24 гадоў. Больш за палову цягне ў ЗША і Расію.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.yahoo.com

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1220

# А ночью ему захотелось допросить снайпершу

**Ирина ДЕМЕНТЬЕВА**

**Командир 160-го танкового полка, кавалер ордена Мужества Юрий Буданов вопреки слухам о его амнистии скоро предстанет перед судом. Прокуратура Северо-Кавказского военного округа обвиняет его в похищении и умышленном убийстве 18-летней чеченки Эльзы Кунгаевой.**

Это — первое громкое уголовное дело с участием российских военных, доведенное до судебного рассмотрения. Оно лишено грифа секретности и иных препятствий к слушанию в открытом гласном процессе.

После полудня, опустив бюллетени за президента России, офицеры сели праздновать день рождения младшей дочери своего командира, полковника Буданова. Ей исполнилось два года, и была она дома, за тысячи километров от Чечни, в Забайкалье, там, где живут семьи военнослужащих 160-го танкового полка. А четырьмя днями раньше в полутора километрах от расположения части, в селе Танги-чу, у другой девочки, старшей в чеченской семье, тоже был день рождения — ей исполнилось 18 лет. После полуночи торжество в честь одной новорожденной завершилось похищением и страшной смертью другой. И в том, и в другом случае главным действующим лицом оказался счастливый отец полковник Буданов.

Так известный московский адвокат Абдулла Хамзаев коротко охарактеризовал содержание уголовного дела полковника Юрия Буданова, арестованного в конце марта прошлого года по подозрению в изнасиловании и убийстве 18-летней чеченки Эльзы Кунгаевой. Хамзаев и его дочь, молодой юрист Лейла Хамзаева, недавно вернулись из Ростова, где знакомились с десятью томами собранных доказательств. В суде, который, по предварительным данным, должен начаться недели через три, они будут представлять интересы пострадавшей семьи.

По просьбе корреспондента «ОГ» Хамзаев согласился изложить уточненную версию обвинения.

Вот последняя реконструкция событий, как они прослеживаются в материалах дела.

## 17 ч. 26.03.00 г.

Попраздновав, то есть сильно выпив и изрядно закусив в честь дочери командира и новоизбранного президента России, офицеры вышли поразмяться. Начштаба Федоров представил нового командира разведроты старшего лейтенанта Б-ва. Б-ву приказали открыть огонь из орудий и пулеметов по соседнему селу Танги-чу. Старший лейтенант замешкался и велел заряжающему заменить осколочные снаряды кумулятивными — так он, очевидно, надеялся избежать возможных жертв среди населения. Орудия разнесли пустой дом в селе. Вдобавок пулеметчик пустил очередь поверх крыш, а вторую с недолетом. Командиры, хоть и провели за столом несколько часов, боевую и политическую подготовку командира разведроты оценили и начали избивать его на глазах веселящихся офицеров и безмолвных солдат. Смертным боем били его полковник Буданов и подполковник Иван Федоров. Сначала по лицу и по голове. Когда Б-в упал, лупили ногами. Старшие по званию младшего по званию. Вернулись к столу. Пилили дальше.

## Примерно в 20 ч. 26.03.00 г.

По тревоге подняли комендантский взвод. Но не для того, чтобы прекратить экзекуцию. Солдатам было приказано связать Б-ва по рукам и ногам. В расположении есть яма, «зиндан», на официальном языке — гауптвахта. Два метра глубиной, сверху закрывается досками. Туда по указанию Буданова приволокли Б-ва. Туда же спрыгнул и Федоров с ножом в руках, но не зарезал узника, хотя и угрожал, а продолжал избиение и в раже прокусил тому бровь!

Офицеры вернулись к столу и продолжили пир. Еще примерно через час комендантский взвод был опять поднят по тревоге и получил новое задание — принести хлорки и насыпать на дно ямы. Сверху настелить доски и тоже посыпать хлоркой. У ямы выставили караул и пошли праздновать дальше. Ели-пили-пели до глухой ночи.

Худшего не произошло, Б-в выжил и даст показания в суде как потерпевший. Начштаба Федоров сядет на скамью подсудимых рядом с Будановым за превышение служебных полномочий при отягчающих обстоятельствах, но под стражу не взят, а продолжает служить Родине.



Полковник Ю.Буданов — палач юной чеченки

## Около полуночи, 26.03.00 г.

Полковник Буданов на своей командирской БМП с экипажем из трех человек отправился в Танги-чу. Поездка была организована втайне, даже посты на въезде-выезде предусмотрительно сняты.

Когда БМП Буданова подкатила к усадьбе Кунгаевых и солдаты стали ломиться в закрытые ворота, дома были только дети. Убедившись, что старших в доме нет, солдаты по приказу Буданова на глазах четырех младших братьев и сестер закатали Эльзу в подвернувшееся одеяло, и один из них, перекинув ее через плечо, понес к машине. Подоспевший брат Кунгаева узнал в распоряжавшемся офицере человека, чей портрет был недавно помещен в какой-то газете. Кавалер ордена Мужества.

На первых допросах Буданов неожиданно заявил, что хотел «разобраться» не с Эльзой, а с ее матерью — будто кто-то из местных чеченцев донес ему об участии этой «снайперши» в бою в Аргунском ущелье. То есть надо поверить, что разгоряченный полковник гнал ночью БМП не за юной девицей, а за матерью семейства. Уж ему-то было известно, что контакты с населением, тем более «разборки» такого рода, ни в коей степени не входят в функции командира танкового полка, для этого есть другие органы и подразделения. Тем не менее, следствие тщательнейшим образом проверяло причастность каждого из взрослых членов семьи Кунгаевых к ичкерийским формированиям и даже намека не обнаружило на пособничество сепаратистам, не говоря уж об участии когото из них в боевых действиях.

## 0.30 - 1 ч. 27.03.00 г.

Прибыв в расположение части к кунгу (дом на колесах) командира полка, солдаты, по указанию хозяина, внесли Эльзу в прихожую, миновали комнату со столом и магнитолой в углу и сбросили на пол в спальном отсеке, после чего получили приказ встать в охранение вокруг фургона и никого внутрь не впускать. Солдаты утверждают, что из кунга не доносилось никаких звуков, только музыка.

## 4 ч. утра 27.03.00 г.

Солдаты получили приказ вновь войти в помещение и в спальне на постели увидели девушку, абсолютно обнаженную, со следами побоев и без признаков жизни, а ее одежда, разрезанная вдоль (Хамзаев подчеркнул — разрезанная!), валялась на полу рядом с топчаном. «Это она расстреливала наших братьев в Аргунском ущелье», — пояснил Буданов и приказал экипажу БМП вывезти труп в лес и закопать.

Потом Буданов велел солдату-истопнику тщательно вымыть полы, сменить полностью постельное белье, вынести из кунга нож, которым резал одежду и белье похищенной, и перчатки, в которых ее душил, а также веревку, которая, по утверждению солдата, появилась в кунге лишь в ту ночь. После чего прилег отдохнуть и проспал до утра.

В лесу солдаты, выкопав яму, поместили завернутую в то же одеяло Эльзу в сидячем положении, туда же сбросили ее одежду. Там труп и нашли. Обычно чеченцы в силу своих традиций возражают против проведения в таких случаях судмедэкспертизы, Кунгаевы не возражали. Экспертиза, по мнению Хамзаева, наряду с самими обстоятельствами похищения и убийства, давала достаточные основания для предъявления Буданову обвинения в изнасиловании.

На следствии Буданов скажет, что чеченка сопротивлялась, царапалась, оскорбляла его нецензурной бранью, и он вынужден был ее задушить.

## Утро 27.03.00 г.

В Танги-чу еще ночью собрался стихийный митинг. Кто-то сообщил об исчезновении девушки в комендатуру Урус-Мартановского района, комендант Наумов поставил в известность командующего группировки «Запад» генерала Герасимова. Герасимов и другой генерал — Вербицкий с утра стали обзванивать все три воинских подразделения, расположенные близ Танги-чу, откуда, в том числе и от командира 160-го танкового полка Буданова, получили информацию — ночь прошла спокойно.

## Первая половина дня, 27.03.00 г.

Генералы, тем не менее, выехали в расположение полка и вновь услышали от Буданова, что никаких ЧП не произошло. От него генералы проехали в Танги-чу и там со слов свидетелей убедились, что похититель все-таки Буданов. Вернувшись в полк, от начальника штаба Федорова узнали, что Буданов якобы вызван в Ханкалу встречать какую-то важную комиссию. Связались по спецсвязи с Ханкалой и услышали, что никто Буданова никуда не вызывал. Решено было послать вслед вертолет, но тут появился сам Буданов, который никуда не уезжал, а прятался. На замечание генерала Вербицкого: «А все-таки следы девушки ведут в твой полк!» — закричал: «У меня танковый полк, а не гарем!» Демонстрируя крайнее возмущение, выхватил боевой пистолет. Комендантский взвод по приказу Федорова заслонил Буданова, направив стволы на генералов. Неизвестно, чем бы это кончилось, если бы Буданов не закричал своим защитникам: «Вы мне еще одну статью добавляете!» После чего, как пресса уже писала, прострелил себе голень. В тот же день он был отстранен от должности и взят под стражу.

Сейчас Буданов находится в Ростове, в следственном изоляторе и, как положено перед судом, уже изучил все 10 томов дела. Ему предъявлены обвинения по трем статьям УК: превышение должностных полномочий при отягчающих обстоятельствах (ст. 286, ч. 3), похищение человека (ст. 126, ч. 3) и умышленное убийство, сопряженное с похищением (ст. 105 п. «В»).

Не хотелось бы, повторил Хамзаев, до срока касаться деталей следствия, но, по его мнению, работа военных прокуроров не оставляет сомнений в их квалификации. Более того, как профессионал, прошедший путь от следователя до работника Генпрокуратуры, он отмечает, что расследование, несмотря на труднейшие условия, было проведено весьма оперативно. Как адвокату, ему предстоит оспаривать некоторые позиции следствия, но это касается скорее юридической оценки доказательств, чем самих доказательств, — их собрано достаточно.

Устоит ли суд перед жестким давлением «ястребов» в Думе и «патриотическими» публикациями СМИ? «Путин, не сдавай своих!» — требует газета «Завтра». Публичные заявления ее любимого автора — нынешнего губернатора Ульяновской области генерала Шаманова — растиражированы многими изданиями. В одном из своих ноябрьских интервью бывший командующий 58-й армией генерал-лейтенант Шаманов сообщил, что следит за судьбой лучшего своего командира и личного друга и что версия о том, будто «снайперша была изнасилована», однозначно отпала. Поэтому «недругам» Шаманов рекомендовал не трогать «грязными лапами» облик русского офицера.

Сам Шаманов, по его словам, уже защитил кандидатскую диссертацию и наполовину подготовил докторскую. Тема одна и та же: «О взаимовлиянии армии и общества», надо думать, самом перспективном. Особенно если принять во внимание, сколько героев кавказских войн в последнее время переоделись в штатское, получив посты губернаторов и представителей президента в самых разных наших регионах. Пока же известные нам теоретические достижения ученого Шаманова исчерпываются формулой: «Ребенок бандита тоже является бандитом».

Матери Буданова он написал, что ей не надо стыдиться сына.

Не знаю, что он мог бы написать матери старшего лейтенанта Б-ва. ■

**Общая газета**



Чеченское село после обстрела федеральными войсками



Местные жители, погибшие при «зачистке». Март 2000 года

Фота REX/PhotoMedia

# Пасля афганскай вайны ў Беларусі загінулі каля 1.500 афганцаў

**Юрый ПАЦЁМКІН**

За 12 гадоў, што прайшлі пасля вываду савецкіх войскаў з Афганістана, ад розных прычынаў у Беларусі памерла ў два разы больш воінаў-афганцаў, чым загінула падчас ваенных дзеянняў. Пра гэта 13 лютага на сустрэчы з журналістамі ў Нацыянальным прэс-цэнтры паведаміў старшыня Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане, дэпутат палаты прадстаўнікоў Станіслаў Гаварушкін. Як вядома, у баявых дзеяннях на тэрыторыі Афганістана загінулі 711 беларусаў, 850 сталі інвалідамі.



Фота Ул. ШЛАПАКА

Паводле словаў старшыні саюза, тыя, хто памёр ці загінуў пасля вываду савецкіх войскаў з Афганістана, — гэта як правіла людзі, што вярнуліся адтуль фізічна здаровымі, але ў сілу пэўных абставінаў не здолелі адаптавацца да мірнага жыцця. Сярод асноўных прычынаў смяротнасці Станіслаў Гаварушкін назваў алкагалізм і наркатычную залежнасць. Паводле яго словаў, аказанне рэабілітацыйнай і сацыяльнай дапамогі былым воінам-інтэрнацыяналістам — галоўная задача Беларускага саюза ветэранаў вайны ў Афганістане, які аб'ядноўвае сёння 6,5 тысячы чалавек. Шмат у чым дзякуючы намаганням арганізацыі, сказаў старшыня саюза, у 1994 годзе ў Віцебску быў адкрыты цэнтр медыцынскай рэабілітацыі воінаў-афганцаў на 100 месцаў. У 2001 годзе, паведаміў Станіслаў Гаварушкін, плануецца здаць другую чаргу цэнтра, дзякуючы чаму колькасць стацыянарных месцаў у ім павялічыцца ўдвая. ■

**БелаПАН**

# Расійская ядзерная зброя ў Калінінградзе

Газета «Вашингтон таймс» са спасылкай на разведку ЗША паведаміла, што амерыканскія разведвальныя спадарожнікі зафіксавалі прысутнасць тактычнай ядзернай зброі Расіі ў раёне Калінінграда. Гэта, адзначае газета, супярэчыць заявам Масквы, што яна не завозіла туды такую зброю. Газета паведамляе, што «упершыню гэтая перакідка была выяўлена 3 чэрвеня на фотаздымках з разведвальных спадарожнікаў, якія зафіксавалі ўзбраенні на расійскім вайсковым эшалоне ў порце паблізу Санкт-Пецярбурга». Паўторна «спадарожнікі выявілі 6 ліпеня прыбыццё ядзерных узбраенняў у Калінінград. Узбраенні былі перакінуты караблём з расійскага порта і размешчаныя ў спецыяльным бункеры побач з ваенным аэрадромам Калінінграда». Газета нагадвае, што гісторыя з пераводам у расійскі анклаў тактычнай ядзернай зброі выклікала занепакоенасць Польшчы, Літвы, Латвіі і Эстоніі, якія патрабавалі правядзення інспекцыі калінінградскіх аб'ектаў. Дзяржаўны дэпартамент ЗША гэтую ідэю падтрымаў, а Масква адмовілася допусціць інспекцыю ў Калінінград. ■

ВІТРАЖ

## Зніклых знайшлі ў тайных магілах

З 1976 года ў Чылі лічыўся зніклым без вестк і камуніст Арасіа Сяпеда. Праз чвэрць стагоддзя яго астанкі ідэнтыфікаваны Службай судовай медыцынскай экспертызы краіны. Яны былі знойдзены напрыканцы студзеня разам з косткамі людзей, акрэсліць якіх паймена пакуль што не ўдалося.

У перыяд ваеннай дыктатуры Аўгуста Піначчэта, якая праіснавала з 1973 па 1990 год, у Чылі бясследна зніклі больш за тысячу чалавек. На пачатку гэтага года ў спецыяльна падрыхтаваных справаздачы чылійскія ваенныя прывялі звесткі пра лёс 200 з гэтай тысячы людзей. Згодна з апублікаваным дакументам, 151 чалавек з гэтага ліку зніклых быў скінуты ў мора з верталётаў (і бясследна знік), астатнія 49 забіты і тайна пахаваныя ў розных раёнах Чылі. На адных з такіх патаемных могілак і ўдалося знайсці астанкі А.Сяпеды. Застаецца адшукаць і ідэнтыфікаваць яшчэ болей за 800. ■

## Кожны другі дарослы за марыхуану

Каля палавіны поўнагадовага насельніцтва Вялікабрытаніі выступаюць за легалізацыю ўжывання марыхуаны. Гэтыя дадзеныя дало апытанне, якое праводзіла тэлерадыёкарпарацыя Бі-Бі-Сі сярод 1.000 жыхароў Англіі, Шатландыі і Уэльса; 9% апытаных выказаліся за адмену крымінальнага пераследу за ўжыванне гэтага наркотыка. Найбольш папулярная гэтая ідэя ў маладых брытанцаў: так, 62% людзей ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў выказваюцца за больш цярплівае стаўленне да тых, хто ўжывае «траўку». Але з гэтай ідэяй згодныя і 33% рэспандэнтаў, якім болей за 65 гадоў.

Падобнае апытанне, якое праводзілася ў кастрычніку мінулага года, засведчыла, што Вялікабрытанія лідзіруе ў ЕС па колькасці дарослага насельніцтва, якое ўжывае канабіс. Кожны дзесяты дарослы брытанец ці рэгулярна паліць марыхуану, ці рабіў гэта на працягу года, які папярэднічаў апытанню.

У гэты ж час кіраўнік лейбарысцкага ўрада Вялікабрытаніі Тоні Блэр катэгарычна выступае супраць прапановаў некаторых палітыкаў легалізаваць гэты наркотык. На думку яго ных экспертаў, марыхуана ёсць «правадніком» да больш моцных наркотыкаў – гераіну і какаіну. «Спрэчка адносна легалізацыі канабіса закрытая», — цвёрда заявіў каардынатар брытанскага ўрада па антынаркатычнай палітыцы Кейт Хелаўэл. ■

## Пабіў, але прабачыўся

Мэр горада Майамі Джо Каролья, які нядаўна за збіццё жонкі правёў ноч у гарадской турме, прынёс публічныя прабачэнні сваёй палове і ўсім жыхарам горада. 45-гадовы гарадскі галава кубінскага паходжання заявіў на прэс-канферэнцыі, што ў яго «крывавіць сэрца», калі ён узгадвае, праз якія перажыванні давялося прайсці яму і яго сям'і, калі сварка з жонкай стала вядомай. Джо Каролья быў арыштаваны пасля таго, як у паліцыю затэлефанавала яго малодшая дачка з паведамленнем, што ён збівае яе маці. Цяпер Каролья выпушчаны пад заклад у 1.500 долараў. Тым не менш, яму пагражае турэмнае зняволенне тэрмінам да аднаго года.

Мэр Майамі папрасіў журналістаў «даць нам перыяд для прыватнага жыцця, каб зажывіліся душэўныя раны» Ён таксама ўдакладніў, што насуперак паведамленню паліцэйскіх ён наносіў удары сваёй жонцы па галаве не керамічным чайнікам для заваркі, а «картонная каробкай, у якой захоўваўся чай». Па словах начальніка паліцыі Майамі Біла Шварца, яго ўстанова «праводзіць агрэсіўную палітыку барацьбы з бытавымі злачынствамі» А цяпер на дапамогу арыштаванаму паспяшалася яго жонка Марыя Ледон, якая заявіла, што яе «муж не хацеў раніць» яе, і выказалася за ўрэгуляванне праблемы «ў сямейным крузе». Выпушчаны пад заклад мэр працягвае працу на пасадзе. ■

ПРЭЗЕНТАЦЫІ

## «Моге кахання» ў «Акварыуме»

**Ірына ТОЎСЦІК**




13 лютага, як і абяцала Беларуская музычная альтэрнатыва (БМАgroup), у клубе «Акварыум» адбылася прэзентацыя касетнага альбома «Моге Кахання», прысвечанага Дню ўсіх закаханых.

Першы альбом, выпушчаны БМА ў XXI стагоддзі, уяўляе сабой зборнік лепшай беларускай музыкі, куды ўвайшлі кампазіцыі гуртоў «Крыві», «Крама», «Новае Неба», NRM, «Нейро Дюбель», «Палац», а таксама песні даволі новых гуртоў: «Харлі», «Белы сон», «Без Білета» і іншых, што надало альбому пэўнай свежасці. Па словах кіраўніка БМАgroup В.Супрановіча, кампазіцыі адбіраліся, па-першае, па тэматыцы да дня св.Валянціна—гэта ў асноўным песні пра каханне, калі не лічыць «Канюшню» гурта «Палац». Музыку да зборніка «Моге Кахання» БМАцы збіралі альбо танцавальную, альбо павольную на свой альтэрнатыўны густ, зміксіцыйны нават песню Іны Афанасьевай «Каханне». Атрымалася даволі арыгінальная падборка музычных твораў. Аматары кахання, калі б ім прапанавалі толькі песні сталых гуртоў-любімчыкаў, пэўна, з задавальненнем слухалі б мэтраў беларускай музыкі.

Прэзентацыю «Моге Кахання» ў «Акварыуме» чамусьці праігнаравалі многія гурты, якія ёсць на касеце, з-за чаго вечарына выглядала беднай і не яркай, нягледзячы на вялікую колькасць зацікаўленых рэкламай слухачоў, пэўна, спевакі зачакаваліся ўжо дзень св.Валянціна. Толькі «Цмокі» спявалі: «Ты мая бензапіла», ад чаго рабілася жудасна. Завёў як заўсёды публіку гурт «Нейро Дюбель», а здзівіў сваім з'яўленнем пасля амаль двухгадовай адсутнасці на сцэне гурт «Новае Неба» на чале з Касяй Камоцкай. Гуртоў не хапіла нават да канца прэзентацыі — прыйшлося круціць касету.

Такая музычная ціхмянасць—гэта стомленасць прадзюсераў? Ці, хацелася б спадзявацца, толькі зацішша перад бураю.Ці св.Валянцін праігнараваў беларускіх закаханых? ■

# Возвращение в отошедший мир?

**Кристоф БЕРТРАМ,**
**директор Фонда содействия науке и политике, Берлин**

**Подобно тому, как старые лошади, участвовавшие в сражениях, начинают ощущать себя молодыми при звуках горна, стратеги «холодной» войны чувствуют приток адреналина, когда вопрос ракетной обороны становится главной новостью первых страниц газет.**

В действительности, противоракетная оборона, которую — при массивной поддержке со стороны американского Конгресса — предлагают Билл Клинтон (неохотно) и Джордж Буш (с энтузиазмом) – значительно отличается от мечты о звездных войнах Рональда Рейгана двадцать лет назад: предполагается, что система противоядерной обороны (ПРО) уловит только скромное число боеголовок, не обеспечивая полной защиты от вражеских ракет. Тем не менее, вопрос вновь разжигает старые дебаты по поводу сдерживания, гарантированного обоюдного разрушения и контроля над ядерным оружием, а также возобновляет соперничество между ядерными державами именно то время, когда ядерное оружие потеряло значительную часть своей уместности и актуальности.

Удивительно, дебаты накаляются, хотя еще неизвестно, сработает ли система противоядерной обороны. Даже если она действительно сработает, пройдет десять или пятнадцать лет, прежде чем эта система станет операционной. Таким образом, раздражение накаляется по поводу события, которое если когда-нибудь и случится в отдаленном будущем, может оказать, а может и не оказать большого воздействия. Обычно осторожные правительства ведут себя в настоящий момент так, как если бы будущее было за углом.

Что может объяснить это странное поведение? Не слепая вера в технологию. В конечном итоге, история противоракетной обороны является повестью о технологии, постоянно разочаровывающей своих сторонников из числа правительства и лиц, не входящих в его состав. Из всех трех проводившихся до настоящего момента испытаний, одно почти провалилось, и два провалились полностью, что стало причиной передачи президентом Клинтоном этого вопроса своему преемнику. Если президент Буш, как он сам отметил, теперь предпочитает другой, отличный проект, потребуется еще больше времени, чтобы разработать архитектуру и подготовить программу тестирования. Никто не может быть уверен в том, что она тоже сработает.

В настоящий момент правительства обеспокоены не реальными возможностями, а действительными или выдуманными намерениями Америки. В то время как американцы утверждают, что система противоядерной обороны не направлена против кого-либо, что все, чего хотят Соединенные Штаты, — это защитить своих граждан от таких государств, как Ирак или Северная Корея, почти все остальные думают по-другому: русские боятся, что Америка хочет навсегда закрепить превосходство своих вооруженных сил (и неполноценность России), китайцы обеспокоены, что система противоядерной обороны означает готовность Америки оказать помощь Тайваню в его стремлении остаться независимым, европейцы переживают, что планы Америки вызывают напряжение в отношениях с Россией и могут отделить Соединенные Штаты от Европы.


Фота IREX/ProMedia

Точное ракетное попадание по самолету

Будучи делом политических намерений, а не технических возможностей, система противоядерной обороны в настоящий момент становится причиной проблем: подталкивает Россию к конфронтации, усиливает нервозность Китая и подкрепляет европейское чувство отчужденности от США. Ущерб наносится от произносимого слова, в то время как конечный результат остается неясным.

Выпуклым политический ущерб делает тот факт, что тридцать лет назад Соединенные Штаты и тогдашний Советский Союз денонсировали эффективность обороны против стратегических ядерных ракет. Обычно, любой проект обороны США в своей непроработанности не мог бы вызвать то возбуждение, которое вызывает система противоядерной обороны. Но Договор ОСВ 1972 года запрещает, на неопределенное будущее, создание систем, способных защитить любую страну от подобной ядерной атаки. По мере того, как США продолжают работать над системой противоядерной обороны, это приведет или к нарушению Договора, или к объявлению о выходе из договора за 6 месяцев.

Администрация Буша утверждает, что, по причине окончания «холодной» войны, формальное исчезновение Договора ОСВ не будет означать потерю ядерной стабильности. Но стабильность является в той же мере вопросом политического восприятия, в какой и вопросом технических подсчетов. Ограничивая стратегическую противоракетную оборону, прежний договор обеспечивает определенную предсказуемость сдерживания для всех государств-ядерных держав. Его отсутствие окажет воздействие на все договоры по контролю над другими видами вооружений. Россия угрожает выйти из всех договоров, как только США выйдет из договора ОСВ. В то время как эта угроза лишена вероятности (это принесет наибольший ущерб интересам России), она имеет определенную логику.

Главный вопрос, который заключает в себе система противоядерной обороны, состоит не в том, как подготовиться к будущему миру противоракетной обороны, а в том, как смягчить сегодняшнее политическое напряжение. Подобные усилия, образно говоря, проваливаются. Правовые эксперты в Вашингтоне полагают, что скромные приготовления к строительству ракетных и радарных участков не являются нарушением Договора ОСВ и, следовательно, не потребуют объявления США о выходе из Договора. Поскольку теперь администрация Буша будет ожидать результатов испытаний прежде, чем принять какое-либо решение. И Москва, и Вашингтон намекают на возможное обширное сокращение своих наступательных ядерных вооружений. Скептические европейские союзники успокаиваются обещаниями США о проведении тесных консультаций. Прорабатывается самая важная из мер по построению доверия, а именно — модификация Договора ОСВ с целью разрешения ограниченной противоракетной обороны. Изначальное «нет» России, может быть, не является последним словом.

Таким образом, политическая неразбериха с Россией и Европой может быть успокоена. Но что касается Китая? В противоположность Европе и России, Китай не является участником альянса (как Европа) или сети договоров по контролю над вооружениями, через которую могут развиваться политические решения (как в случае с Россией), факторы, которые вносят вклад в азиатскую нестабильность и чувствительность Китая. Здесь уверенность может быть построена только на основе подхода, которого придерживаются Соединенные Штаты по отношению к Китаю.

Все это приводит к разочарованию стратегов «холодной» войны. Освежая в памяти словарь и сокращения времени сдерживания супердержав, они обнаруживают, что подобный мир исчез. Противоракетная оборона — не угроза российско-американской стратегической стабильности, но неправильное обращение с ней является угрозой политической предсказуемости. Объявив о намерении продолжать разработку отдаленной системы ПРО, США создало политическое беспокойство, на которое преимущественно и нужно сейчас обратить внимание, если мы хотим избежать основной опасности.

**© Project Syndicate, февраль 2001 г.**

СПОРТ

## Лыжны чэмпіянат свету ў Фінляндыі

**Аляксей СТАЎСКІ**

Учора афіцыйна распачаўся чарговы чэмпіянат свету па лыжным спорце ў фінскім мястэчку Лахці. Удзел у ім прымуць і беларускія спартсмены. Мужчыны: Сяргей Далідовіч, Мікалай Семяняка, Аляксандр Трэгубаў, Аляксандр Саннікаў і Раман Віралайнен. Жанчыны: Ірына Скрыпнік, Алена Міхайлава, Людміла Каролік і Вольга Васілёнак.

У рамках скачкоў з трампліна выступіць наш Дзмітры Афанасенка, у рамках двухбор'я Дзмітры Селязнёў, Канстанцін Каліноўскі і Сяргей Захаранка.

Шанцаў на медалі, шчыра прызнацца, у беларусаў амаль няма. Але трапіць у заліковыя ачкі для нас магчыма.

Расклад чэмпіянату свету на бліжэйшыя дні:

**15 лютага:** мужчынская і жаночая гонкі на 15 кіламетраў.

**16 лютага:** лыжнае двухбор'е (трамплін і 15 кіламетраў).

**17 лютага:** лыжны спорт, мужчынская гонка на 10 кіламетраў, і ўвечары мужчынская гонка пераследу таксама на 10 кіламетраў.

**18 лютага:** лыжны спорт, жаночая гонка на 5 кіламетраў і ўвечары жаночая гонка пераследу на 5 кіламетраў. Скачкі з трампліна 120 метраў.

**19 лютага:** лыжны спорт, мужчынская гонка на 30 кіламетраў. ■



## Тэнісісты аднавілі баталіі

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Пасля перапынку, выкліканага правядзеннем гульняў у рамках розыгрышу кубка Дэвіса, тэнісісты зноў уключыліся ў сваю чэмпіёнскую гонку. Адразу пяць турніраў праходзіць на гэтым тыдні, і ў трох з іх удзел узялі прадстаўнікі Беларусі.

У сталіцы Даніі Капенгагене праходзіць турнір з прызавым фондам у 350 тысяч долараў. На жаль, ужо ў першым крузе выбыў са спаборніцтваў наша першая ракетка Уладзімір Валчкоў, які саступіў моцнаму тэнісісту з Зімбабве Байрану Блэку — 4:6, 2:6.

Другі беларус Максім Мірны на турніры ў французскім горадзе Марсель з прызавымі ў памеры паўмільёна долараў у першым крузе адолеў іспанца Дзіяса Жакоба — 7:6, 6:7, 6:3, а ў другім яго чакае адзін з мацнейшых тэнісістаў планеты па выніках мінулага года швед Магнус Норман.

З прадстаўніц слабага полу на гэтым тыдні ўзялі старт усе беларускі: Вольга Барабаншчыкава, Надзея Астроўская і першая на цяперашні момант беларуская тэнісістка Таццяна Пучак. Абедзве стартавалі на турніры ў сталіцы Катара Дохе (там, дзе ў пачатку года вялікіх поспехаў дабіўся Уладзімір Валчкоў), аднак Барабаншчыкава і Астроўская адправіліся дадому ўжо пасля першай гульні. Першая сенсацыйна саступіла слабой Ірадзе Туляганавай з Узбекістана — 3:6, 6:7, а Астроўская безальтэрнатыўна праіграла Барбары Шэт з Аўстрыі — 1:6, 3:6. Пашанцавала толькі Таццяне Пучак, ды і то яна трапіла ў другі круг толькі дзякуючы адмове гуляць яе саперніцы Аліцыі Молік з Аўстраліі. Далей Таццяну чакае Ліна Краснаруцкая, якая перамагла Рыту Грандэ з Італіі. ■

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ № 164 Нумар падпісаны ў друк 15/02/2001 (18.00) Наклад — 10.190